# Беларускае грамадства пасля выбараў

## Віртуальны варыянт

*Жыццё не ўчора пачалося і не заўтра закончыцца. Нават тады, калі сённяшняя ўлада зробіць так, што яна застанецца пры ўладзе. Але жыццё бясконца ставіць перад кожным з нас экзэстэнцыяльныя пытанні кшталту быць або не быць.*

Прычым гэтыя пытанні не губляюць сваёй метафізічнай вартасці нават тады, калі ў сферы чыстага існавання шэраговага беларуса фармулююцца як уяўная альтэрнатыва піць або не піць. Ці нават так: піць або ўсё прапіць. Прыкладаў таму колькі заўгодна. Так, у маёй вёсцы жыве сям'я. Бацькі адносна маладыя, многа гадоў запар адпрацавалі на калгаснай ферме і прапівалі амаль увесь заробак. Прапіліся так, што не было грошай нават на нацельную бялізну. Пра пасцельную і гаворкі няма. Але нарадзілі сына, які з вядомай прычыны атрымаўся нейкі ўвесь затарможаны. Зараз у вёсцы калгаса няма, ферму закрылі, таму сям'я перайшла да ў большасці збіральніцкага спосабу вядзення хатняй эканомікі. Мужчыны сваю патрэбу ў тытуні задавальняюць, збіраючы недакуркі на прыпынку электрычкі, на паліва ўсю зіму цягнулі агароджу і дошкі з былой калгаснай фермы, нейкую бульбіну атрымалі, дапамагаючы капаць яе сваім «заможным» суседзям. Жывуць мусіць пры лучыне, таму што электрычнасць «абрэзалі» за няўплату, а газ у вёску даўно не завозяць, а за салярку таксама трэба плаціць або «наліваць» трактарысту. Таму ні тэлебачання не глядзяць, ні газет не чытаюць.

Гэтыя прадукты «развітога» сацыялізму сямейныя. Калісь гэтых хлопца і дзяўчыну пажанілі іх бацькі, каб гэткім чынам даць нейкі стымул, інтарэс да жыцця як прафілактычны сродак ад алкагалізму. А што атрымалася... А цэлы тузін маладзейшых хлопцаў увогуле так і не змаглі ўступіць у шлюб з раўесніцамі. Зараз гэта не маючыя рэгулярнага занятку алкаголікі, якія не грэбуюць і дробным крадзяжом. Амаль кожнага з іх у любы момант можна пасадзіць у турму. Турмы ж не гумавыя... Але гэтая пагроза, якая зыходзіць ад улады, гэта ж вельмі зручны павадок: яны прагаласуюць як патрэбна.

Такім чынам, гэтыя людзі, а іх калі не большасць, то значная частка аднавяскоўцаў, свой экзэстэнцыяльны выбар ужо зрабілі. А зараз зробяць і палітычны. Для мяне і за мяне? Выходзіць так. Вось я і пытаюся ў самога сябе, чаму тыя, хто не ў стане выконваць свае грамадзянскія абавязкі, не ўсведамляючыя сваіх правоў, маюць права на вызначэнне сваёй нецвярозай волі?

Дарэчы, зададзімся пытаннем наконт таго, што ўвогуле адбываецца. Ну, набліжаюцца выбары, ну, чуецца з усіх бакоў, што ў Лукашэнкі высокі рэйтынг, што Дзярждэпартамент ЗША выказвае заклапочанасць парушэннем дэмакратычных стандартаў з боку галоўнага кандыдата. Увогуле, ну і што...

А тое, што мы не дыпламаты. І нам язык дадзены не для таго, каб хаваць свае думкі. Таму мы пытаемся прама: чаму пры ўсім пры тым галоўны кандыдат і ягоныя памагатыя з раніцы да вечара абліваюць памыямі ўсіх, хто не лічыць яго і іх дастойнымі ўлады над намі. Нават калі нас меншасць, што вельмі сумнеўна. Чаму робяцца стаўкі на маргіналаў, якія нічога добрага для краіны і грамадства не зрабілі і не зробяць. І калі, крый Бог, бяда спасцігне Беларусь, не яны будуць ратаваць. Ці не таму, што і галоўнаму кандыдату лёс Беларусі цікавы ў тым сэнсе, што зараз дазваляе гойсаць па Мінску на «членавозе», назіраючы, як электарат давіцца ў перапоўненым грамадскім транспарце. Дазваляе надзяваць маршальскія пагоны ды грозна паглядаць на *NATO* праз прораз аўтаматнага прыцэлу. Дазваляе гуляць у гульні, якія доўжаць басаногае дзяцінства?

А ўвогуле, каб не было таго *NATO*, мы б што, пайшлі Літву ваяваць за выхад да мора? Дабраліся б да вікінгаў з іх незразумелым для нас «шведскім сэнсам»? Дзе б мы ўвогуле селі, калі б усталі і пайшлі? Брыдота, калі ўспомніць, колькі каштаваў Беларусі ўдзел у геапалітычных гульнях Расіі за панаванне ў Еўропе. А зараз, калі гуляць пачнуць ядзернымі цацкамі, што ад нас застанецца? Куча радыеактыўных адходаў. Не інакш.

Галоўны кандыдат, ён жа ёсць і галоўнакамандуючы беларускага войска. Але вось што цікава, нідзе ніколі ні ён, ні яго прапагандысты ды папулярызатары ні




слова не сказалі пра тое, хто быў яму бацькам. Уласна нас цікавіць толькі адно. Ці ваяваў ён (бо пакаленне нашых бацькоў ваявала), а калі ваяваў, то на чыім баку. Мы хочам гэта ведаць, бо ўпартае нежаданне галоўнага кандыдата сказаць што-небудзь на гэты конт, наводзіць на падазрэнні. Увогуле, гэта наша права ведаць пра паходжанне кандыдата ўсё. Даводзілася ж яму некалі пры ўступленні ў КПСС даваць звесткі пра бацьку. А там двухсэнсоўнасці не цярпелі. Дык што такое адметнае было ў Рыгора Лукашэнкі, лібіда якога рэалізавалася ў такім шчырым беларусу, як Аляксандр Лукашэнка? Пытанне застаецца і патрабуе адказу, значыць адказ будзе.

Кажуць, што світа робіць караля. Сёння гэтую ролю выконваюць СМІ, перш за ўсё электронныя. У гэтай сувязі трэба патлумачыць, што калі радыёрэпартажы з месца падзеяў ды кінахроніка ўвайшлі ў шырокі побыт, то многія лічылі, у прыватнасці Бертольт Брэхт, што з гэтага моманту фальсіфікацыі стануць немагчымымі. Як жа яны памыляліся. Таму што ўсё залежыць ад таго, хто робіць гэтыя рэпартажы, хто здымае хроніку, ад таго, каго слухаюць, каго і як здымаюць. Ад таго, як робіцца «паэтычная праўда» (тэрмін Гебельса, які ў нас існаваў пад назовам «соцрэалізму»). Ці, як раней казаў паэт, — «нас возвышающий обман». Але магчымасці «паэтычнай праўды» як сродку маніпулявання настроямі вялікія, але абмежаваныя. Прыкладам, Ганс Фрычэ, вядучы радыёкаментатар Гебельса, голас якога мог заваражыць мільённыя аўдыторыі, распавядаючы пра мужнасць салдатаў ды ахвярнасць работнікаў тылу, пра вернасць ваяроў фатэрлянду, а арыйскіх жанчын — арыйскім ваярам, пасля Сталінграда пачаў атрымоўваць здзеклівыя пісьмы ад слухачоў. З прапановамі паваяваць з «генералам Марозам» або пастаяць 12 гадзінаў за станкам, маючы ў ежу эрзац-каву з эрзац-мармеладам. Дарэчы, Фрычэ на Нюрнбергскім працэсе праходзіў як ваенны злачынца.

Дык вось, любы нармальны чалавек, не можа без агіды ўспрымаць тырады т. Новікава, калі той распавядае пра «таемныя пружыны палітыкі». Ён ужо агідны нават тады, калі не раскрывае вусны. А вядомая інфантыльная тэлевядучая, якая робіць спробы нейкіх там іранічных «абагульненняў», выклікае агіду ўжо тым, што па ёй іншаземцы мяркуюць аб усіх нашых жанчынах. А ўвогуле, супрацоўнікаў БТ даўно пара ўзнагароджваць ордэнам Зімоўскага з выявай трох языкоў, што тонуць у пене. Як некалі гэта ў армейскіх анекдотах прапаноўвалася для пампалітаў.

Ад чаго той імпэт, з якім яны выліваюць цэбры памыяў на людзей сталых і паважаных, на таленавітых і энергічных, на людзей, што любяць Бацькаўшчыну. Няўжо толькі ад таго, што, як казала вядомая некалі журналістка-апазіцыянерка, якая сёння шчыруе ў жанры «разаблачэнняў» апазіцыянераў, што «трэба карміць дзяцей». Зразумела, усім трэба. Але толькі адзінкі робяць гэта такім адкрытым спосабам. А можа гэта ўсё ад пачуцця беспакаранасці, ад таго, што няма чаго сказаць, а гаварыць трэба? Можа ад таго, што трэба сысці, але няма куды?

Я далёкі ад таго, каб пагражаць гэтым людзям, змушаным на самыя агідныя праявы халуйства. Але падобна да таго, што, распавядаючы пра нечалавечую папулярнасць Лукашэнкі, ладзячы рэпрызы наконт яго поўнага яднання з народам, яны самі ў гэта паверылі. Але ж жыць ім прыйдзецца не з калгаснымі пенсіянерамі ды п'янаватымі механізатарамі. Бо яшчэ адна памылка, лічаць сябе яны інтэлігентамі. А сярод інтэлігенцыі класічнае «не падаць рукі» даўно ўжо трансфармавалася ў нешта іншае, значна менш інтэлігентнае. Сёння яны яшчэ маюць апірышча, таму што верхаводзяць у шэрай масе карыслівых канфармістаў, што дае магчымасць камфортнага пачування.

А заўтра? Нават пасля чарговай перамогі ўсенародна абранага над гэтым самым народам далёка не ўсе з атрымаўшых паразу з'едуць з Беларусі. Яны зробяць усё, каб шэрасць нарэшце знікла з палітры грамадскага жыцця. Хто тады вам дапаможа? Вы нават «пераможцу» станеце непатрэбнымі. Гэта сёння ён без вас як без памыйнага вядра, але нават і ён не зможа з вамі жыць пры ўсёй сваёй адаптаванасці да смуроду.

**Канстанцін СКУРАТОВІЧ**

## Фестывальнае адкрыццё тэатральнага сезона

*З 11 па 15 верасня адбудзецца тэатральны фестываль «Белая вежа», на якім будуць прадстаўленыя драматычныя і лялечныя спектаклі беларускіх і замежных тэатраў.*

Фестываль пройдзе ўжо шосты раз і другі год запар у першым восеньскім месяцы. Раней «Белую вежу» праводзілі ў кастрычніку, але паколькі па традыцыі спектаклі на фестывалі паказваюцца ў тым ліку на пляцоўках пад чыстым небам, то акцёры часта проста мерзлі, а потым хварэлі. Што да месца правядзення гэтага тэатральнага фестывалю, то ён зазвычай праходзіць у горадзе Брэсце і ў Камянцы каля сценаў помніка беларускай архітэктуры — чырвонацаглянай Белай вежы, дзе летась было наладжанае адкрыццё пятай і юбілейнай «Белай вежы».

У мінулым годзе фестываль адкрыўся там «Князем Вітаўтам» паводле п'есы драматурга Аляксея Дударава ў выкананні акцёраў Нацыянальнага тэатра імя Янкі Купалы. Спектакль гэты ўзяў тады Гран-пры фестывалю. «Белая вежа-2001» зноў адкрыецца спектаклем з рэпертуара Купалаўскага тэатра і зноў па п'есе А.Дударава – «Чорнай паннай Нясвіжа».

Усяго ў фестывалі, які лічыцца міжнародным, маюць узяць удзел, акрамя Беларусі, тэатры з



12 краінаў, якія пакажуць гледачам болей двух дзесяткаў спектакляў. На фестывальныя сцэны (у вялікай і малой залах Брэсцкага тэатра драмы і музыкі, у мясцовым лялечным тэатры і на пабудаванай летась сцэне каля старажытнай Белай вежы) выйдуць тэатральныя калектывы Украіны, Славакіі, Турцыі, Румыніі, Расіі, Італіі, Японіі, ЗША і іншых краінаў. Японцы і італьянцы завітаюць на фестываль упершыню («Белая вежа» штогод пашырае фестывальную гасцявую геаграфію: летась такімі былі швейцарцы і кітайцы). Што да найбольш цікавага, то Расію прадставіць «Тэатр Месяца» са спектаклем «Стары новы Фаўст», ЗША – акцёры з Нацыянальнай амерыканскай культурнай лабараторыі, што ў Нью-Йорку, якія пакажуць пастаноўку «Захапленне адпаведна...» Кіеўскі эксперыментальны тэатр пры Кіева-Магілянскай акадэміі мае прадставіць вулічны спектакль «Паміж небам і зямлёй», славакі пакажуць «Жанчыну з дзвюма галовамі». Пасля кожнага паказанага спектакля будуць праходзіць творчыя сустрэчы рэжысёраў і акцёраў з гледачамі. Так што беларускія тэатралюбы змогуць на ўласныя вочы пабачыць і ацаніць, як развіваецца сусветнае тэатральнае мастацтва.

Сярод беларускіх удзельнікаў фестывалю «Белая вежа» будуць Брэсцкі тэатр драмы і музыкі, які пакажа спектакль «Саламея», Коласаўскі тэатр, нядаўна набыўшы статус Нацыянальнага, са спектаклем «Зямля паводле Якуба Коласа», лялечныя тэатры з Брэста і Гомеля.

Міжнароднае фестывальнае журы на чале з беларускай артысткай Святланай Акружной мусіць вызначыць пераможцаў сёлетняй «Белай вежы» па 4 намінацыях – за лепшыя драматычную і лялечную пастаноўкі, за лепшыя жаночую і мужчынскую ролі. За перамогу ў згаданых намінацыях ейныя лаўрэаты атрымаюць прэміі ад мінкульта. А ўганараваны Гран-пры беларускі тэатр атрымае выдаткамі на дадатковую дзяржзаказную пастаноўку.

Прыняўшы тэатральны фестываль, берасцейцы будуць чакаць у верасні наступнага – Нацыянальнага фестывалю беларускіх фільмаў.

**Кірыла ПАЗЬНЯК**

## Мастацкі фестываль

У мінскім Палацы мастацтва адкрылася міжнародная выстава «*Master*», якая прадстаўляе працы 21 мастака з Беларусі, ЗША, Польшчы, Літвы, Расіі.

На жаль, як адзначаюць арганізатары выставы — прадстаўнікі Міжнароднага грамадскага аб'яднання мастакоў і мастацтвазнаўцаў «Майстар», не ўсе мастакі змаглі прыехаць на яе адкрыццё. Тым не менш, такія майстры пэндзля, як Гіедрэ Гучайце (Літва), Артур Скаўроньскі, Марэк Станілевіч (Польшча) і іншыя, прысутнічалі на цырымоніі адкрыцця. Унікальнасць гэтага мерапрыемства, прымеркаванага да 80-годдзя Беларускага дзяржаўнага універсітэта, заключаецца ў тым, што гэта не проста выстава, а фестываль, у рамках якога пройдуць канцэрты і паказы модаў. У рамках фестывалю таксама адбудзецца мастацкая латарэя.

Паводле словаў аўтара канцэпцыі выставы мастацтвазнаўцы Алы Нароўскай, плануецца зрабіць гэтае мерапрыемства традыцыйным. Ёсць ідэя ў наступным годзе ў рамках фестывалю арганізаваць у Мінску выставу польскіх мастакоў Яўгеніюша Гета Станкевіча, Крыстофера Навіцкага і іншых.

Цяперашняя выстава «*Master*» прадоўжыцца да 18 верасня. Усім яе наведвальнікам будзе ўручацца каталог з інфармацыяй аб прадстаўленых працах і іх аўтарах, які выдадзены пры падтрымцы пасольства ЗША ў Беларусі.

**Маша ПЯТРОВА**

## Пад эгідай ЮНЕСКО

У выдавецтве «Беларуская энцыклапедыя імя Петруся Броўкі» тыражом у пяць тысяч асобнікаў выйшаў энцыклапедычны даведнік «Помнікі сусветнай спадчыны».

Аўтар выдання – кандыдат гістарычных навук Віктар Кісель у папулярнай форме даў звесткі аб гісторыка-культурных і прыродных помніках планеты, якія прызнаны настолькі выдатнымі, што ўзяты пад ахову сусветнай супольнасці. Гэтыя аб'екты ўнесены ЮНЕСКО ў Спіс сусветнай спадчыны ў адпаведнасці з Міжнароднай канвенцыяй па ахове сусветнай культурнай і прыроднай спадчыны 1972 года.

Цяпер у Спіс сусветнай спадчыны ЮНЕСКО ўключана больш як 500 аб'ектаў. Сярод іх – дзяржаўны нацыянальны парк «Белавежская пушча», унесены ў спіс у 1992 годзе. У 1993 годзе ЮНЕСКО прысвоіла Белавежскай пушчы статус біясфернага запаведніка і ўключыла ў адзіную сусветную сістэму назірання за змяненнямі ў навакольным асяроддзі. У 2000 годзе філіял Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі «Мірскі замак» быў уключаны ў Спіс сусветнай спадчыны ЮНЕСКО.

**БелаПАН**

**ЛАЎРЭАТЫ**

## Прэміі Пэн-цэнтра

Беларускаму філосафу Валянціну Акудовічу і журналісту Валерыю Дранчуку прысуджаныя прэміі Беларускага ПЭН-цэнтра імя Алеся Адамовіча.

Як паведаміў ганаровы віцэ-прэзідэнт Беларускага ПЭН-цэнтра Карлас Шэрман, журы, якое ўзначальвае прэзідэнт аб'яднання Васіль Быкаў, разглядзела працы некалькіх дзесяткаў суіскальнікаў прэміі і спынілася на публікацыях Акудовіча і Дранчука.

Беларускі філосаф, культуролаг, літаратурны крытык і публіцыст Валянцін Акудовіч атрымаў прэмію за серыю філасофскіх эсэ аб самаідэнтыфікацыі беларусаў. «Высокі еўрапейскі ўзровень вальнадумства Акудовіча дазволіў яму цудоўна адлюстраваць гэтую тэму ў сваіх публікацыях», – сказаў Шэрман.

Другім лаўрэатам прэміі імя Алеся Адамовіча стаў заснавальнік і галоўны рэдактар беларускай незалежнай экалагічнай газеты «Белавежская пушча» Валерый Дранчук. Як адзначыў Шэрман, «у краіне і за яе межамі добра вядомыя яго актуальныя артыкулы, прысвечаныя прыродаахоўным і постчарнобыльскім праблемам». Журы ацаніла публіцыстычную дзейнасць Дранчука як «адмысловы подзвіг чалавека, які аддана вядзе тэму экалогіі на працягу многіх гадоў і аддае гэтай справе ўвесь свой час».

**Марат ГАРАВЫ**

СПОРТ

## Васілюк-Польшча 4:1

Пасля буйной перамогі ў Мінску над палякамі футбольная зборная Беларусі захоўвае неблагія шанцы патрапіць на чэмпіянат свету па футболе.

Гэтага матча беларускія заўзятары чакалі з апаскай, бо ў якасці дысцыплінарных захадаў трэнер нашай зборнай Эдуард Малафееў адлучыў ад каманды яе бясспрэчных лідэраў – гульцоў кіеўскага «Дынама» Валянціна Бялькевіча і Аляксандра Хацкевіча. Іхняя дрэнная гульня супраць украінскай зборнай была патлумачаная тым, што хлопцаў проста купілі функцыянеры ўкраінскага футбола. Хоць даказаць гэта не ўяўляецца магчымым, тым не менш ні Хацкевіча, ні Бялькевіча ў складзе беларускай каманды, ні ў запасе на гульні з палякамі не аказалася. Параза ў гэтай сустрэчы і нават нічыя пасля перамогі ўкраінцаў над армянамі 3:0 пазбаўляла нас шанцаў заняць другое месца ў групе, якое дае права пазмагацца за выхад у фінал сусветнага першынства ў стыкавых матчах (ці то з Нямеччынай, ці то з Англіяй).

Але выдатная гульня нападаючага зборнай Беларусі і маскоўскага «Спартака» Рамана Васілюка, а таксама, на што нельга не зважаць, адсутнасць належнай спартовай матывацыі ў палякаў, якія ўжо забяспечылі сабе першае месца ў групе і паездку на фінал чэмпіянату свету па футболе, налкінулі беларускім заўзятарам і нервы ў парадку, і, галоўнае, надзею. Васілюк выдаў ажно галявы покер. Толькі ўзнікае пытанне, чаму Э.Малафееў не выпусціў яго на матч Беларусь-Украіна, дзе наша атака выглядала зусім бяззубай.

Цяпер, каб апярэдзіць украінцаў (16 ачкоў) і заняць жаданае другое месца ў групе, беларусам (15 ачкоў) абавязкова трэба перамагаць 6 кастрычніка ў гасцях зборную Уэльса. І чакаць перамогі палякаў ці, прынамсі, нічыёй у іхнім матчы з украінскай зборнай. За месяц, мажліва, утрасецца канфлікт паміж Малафеевым і Хацкевічам з Бялькевічам, і гэтыя, без сумневу, дужа патрэбныя беларускай камандзе футбалісты вернуцца ў нацыянальную зборную. Яна можа ўзмацніцца і за кошт гульцоў маладзёжнай зборнай Беларусі па футболе Глеба і Кутузава, тым больш што ёй пасля нічыёй 3:3 з польскімі аднагодкамі ў сваім турніры ўжо нічога не свеціць.

І што да ваколфутбольных варункаў. Заўзятары футбола вывелі такую прыкмету: калі на матчы прысутнічае Лукашэнка, нашыя, як тое было 1 верасня ў гульні з украінцамі, прайграюць. На матчы з палякамі яго не было, і беларусы атрымалі перамогу. Ва Уэльс хутчэй за ўсё Лукашэнка не паедзе. Значыць, мы чакаем там перамогі.

**Кірэй МАНУЙЛА**

## Хакейную зборную ачоліць Крыкуноў

Амаль напэўна беларускую зборную на хакеі ўзначаліць заслужаны трэнер Беларусі Уладзімір Крыкуноў. На гэты конт з настаўнікам расійскага клуба «Ак барс» ужо маецца адмысловая папярэдняя дамоўленасць федэрацыі хакея і міністэрства спорту і турызму. Крыкуноў, якому давялося пайграць нават за зборную СССР, ужо працаваў у нашай краіне, калі ў другой палове 80-ых трэніраваў мінскае «Дынама». Менавіта пры Крыкунове каманда заняла самае высокае 10-е месца ў чэмпіянатах СССР.

Уладзімір Крыкуноў прыйдзе на змену пайшоўшага ў адстаўку з пасады галоўнага трэнера зборнай Беларусі па хакеі пасля няўдалага выступлення каманды на апошнім чэмпіянаце свету Анатоля Варывончыка. Праз некалькі месяцаў беларусам давядзецца гуляць на зімовай Алімпіядзе ў амерыканскім Солт-Лейк-Сіці.

Змена коўча верагодная і ў маладзёжнай зборнай Беларусі па хакеі. Адразу пасля нічыйнага матча з палякамі 4 верасня ў адстаўку падаў галоўны трэнер зборнай Юрый Пунтус. Гэтай гульні папярэднічалі ажно тры паразы. Усё гэта дужа кантрастуе з тым, як пачынала групавы турнір наша «маладзёжка» – з чатырох, прычым буйных, перамогаў.

**Алесь КАТОВІЧ**

СПАДЧЫНА

## Аўтапрабег па радзівілаўскіх мясцінах

8 верасня грамадскае аб'яднанне «Таварыства абароны помнікаў тэхнікі і транспарту «Наша Перамога» праводзіць чарговы аўтапрабег.

Рэтрападарожжа пройдзе па памятных мясцінах старажытнага беларускага магнацкага роду Радзівілаў. Прыхільнікі рарытэтнай аўтамабільнай тэхнікі ажыццёвяць паездку па маршруце Мінск–Слуцк–Капыль–Клецк–Нясвіж. У акцыі возьмуць удзел больш за 20 членаў аб'яднання на шасці аўтамабілях, сярод якіх «Перамогі», джыпы ГАЗ-69 і мікрааўтобусы «Жук».

Паводле словаў Цярэшкі, мэта аўтапрабегу – прыцягнуць увагу насельніцтва да выбараў прэзідэнта краіны, якія адбудуцца 9 верасня, а таксама азнаёміць членаў клуба з маёнткамі князёў Радзівілаў.

Напярэдадні аб'яднанне правяло падарожжа з наведваннем старажытных замкаў Мінскай і Брэсцкай абласцей і прабег, прысвечаны 1000-годдзю Друцка. У гэтых акцыях узялі ўдзел ваенна-патрыятычнае аб'яднанне «Рыцары Вялікага княства» (Мінск) і маладзёжнае грамадскае аб'яднанне «Гісторыка».

Падчас акцыяў члены клуба працягвалі збор рэліквіяў для будучай экспазіцыі Музея тэхнікі і транспарту Беларусі.

Васіль Цярэшка запрашае да ўдзелу ў аўтапрабегу ўсіх аматараў рэтрааўтамабіляў. Кантактны тэлефон у Мінску — 284-85-11.

**Марат ГАРАВЫ**

РЭХА

## Пяцідзёнка вернута!

Пасля таго, як НАША СВАБОДА ў нумары за 22 жніўня надрукавала матэрыял «Унутраная механіка «Гідрааўтаматыкі», на гэтым прадпрыемстве адбыліся некаторыя зрухі.

Рабочыя «Гідрааўтаматыкі» перадавалі газету з матэрыялам адзін аднаму, пакуль нехта не «ўзяў пачытаць» і не занёс газету кіраўніцтву. Пачалося высвятленне, хто «зліў» інфармацыю. Канечне, ніхто не прызнаўся, нават калі і ведалі, а ў пацверджанне сваёй згоды з напісаным, павесілі яшчэ адзін экземпляр на дошцы аб'яваў.

Напалоханае кіраўніцтва ўжо на наступны дзень адрэагавала на артыкул. Штотыднёвая разнарадка, у якой пісалася, хто калі «гуляе» дзень, а хто працуе за адсутных, не з'явілася на сваім звычайным месцы на дошцы аб'яваў. Праўда, і старонка з НАШАЙ СВАБОДЫ вісела там нядоўга.

Ці доўга пратрымаецца «Гідрааўтаматыка» ў нармальным рэжыме работы – невядома. Бо магчыма да агалошання «ўнутранай справы» прадпрыемства праз газету дадалося яшчэ і тое, што нельга злаваць электарат напярэдадні выбараў.

**Генрых КАСТАЛЬСКІ**

# Валентинка

*Против главы православных неораскольников митрополита Валентина возбуждено уголовное дело за «вовлечение несовершеннолетних в антиобщественные действия»*

Человек, называющий себя митрополитом Валентином, был до 1990 года настоятелем Царе-Константиновского храма в Суздале. Он имел сан архимандрита. По сведениям источников «Вестей.ru», амбициозный и энергичный архимандрит Валентин неоднократно просил руководство Владимиро-Суздальской епархии рукоположить его в епископы. Но ему отказывали – в том числе из-за его «безнравственного образа жизни».

В результате в апреле 1990 года архимандрит Валентин стал первым в Советском Союзе настоятелем храма, заявившим о переводе своего прихода под юрисдикцию Русской Православной Церкви за границей (РПЦЗ). В 1991 году мечта архимандрита сбылась: иерархи РПЦЗ в Брюсселе рукоположили его в епископы своей церкви. Но в 1995 году Валентин поссорился и с руководством «зарубежников» – по его версии, из-за их линии на сближение с Москвой, – и создал в Суздале свою собственную структуру – Российскую православную автономную церковь (РПАЦ). Самопровозглашенный в Суздале Синод РПАЦ (9 епископов) возвел Валентина в сан архиепископа, а весной 2001 года – в сан митрополита.

Карьера митрополита Валентина имела некое сходство с карьерой киевского раскольничьего патриарха Филарета, также покинувшего московскую юрисдикцию из-за недовольства своим в ней положением. Как и в случае с Филаретом, в распоряжении Валентина оказались значительные денежные средства, в том числе заграничного происхождения. (В число близких Валентину людей входит, в частности, германский посол в Белоруссии Хорст Винкельман.) Но летом 2001 года по митрополиту был нанесен мощнейший пиаровский удар.

С 28 июня 2001 года владимирская областная газета «Призыв», имеющая репутацию «сливного бачка» для заказного компромата, опубликовала серию статей о Валентине, в которых главу РПАЦ обвиняли в растлении и спаивании малолетних прихожан, мужеложстве, воровстве и других грехах. Реакция на эти публикации о довольно известном в области человеке (кстати, Валентин – депутат Суздальского горсовета) была настолько сильной, что в газету начали звонить с вопросами: «Неужели такое возможно в нашей церкви?» Редакция «Призыва» сочла нужным «уточнить», что РПАЦ не имеет отношения к Московской Патриархии.



Митрополит Виталий, глава Русской Православной Автокефальной церкви

На основании статей в «Призыве» Владимирская городская прокуратура возбудила против Валентина уголовное дело по статье 151 УК РФ («вовлечение несовершеннолетних в антиобщественные действия»). В руках следствия находится видеокассета с показаниями детей, отснятая бывшим клириком РПАЦ Андреем Осетровым, лишенным сана за «попытку расколоть Церковь». На пресс-конференции в понедельник представители РПАЦ утверждали, что в администрации Суздаля эта кассета появилась еще в конце 2000 года, но тогда огласке предана не была.

Любопытно, что, несмотря на резкую критику в адрес Русской Православной Церкви, представители РПАЦ не утверждали, что за атакой на митрополита стоит именно Московская Патриархия. Одна из их версий – что дело против Валентина является провокацией, призванной поднять на европейском уровне проблему «преследования религиозных меньшинств в России» накануне визита Владимира Путина в Германию.

Владимирская епархия Московской Патриархии также выступила с весьма интересным заявлением, в котором виновность Валентина признается, – и в то же время называется меньшим грехом, чем раскол. *«Мы не осуждаем митрополита Валентина, но призываем к покаянию. Пусть покается, и Церковь примет его...»*

**Дмитрий СТАРОСТИН**
**Vesti.ru**

# Грех Швейцарии

## *Ее промышленники наживались на принудительном труде военнопленных и узников нацизма*

Сегодня названия таких швейцарских фирм, как «Магги», «Нестле» или «Роше», благодаря рекламе хорошо известны едва ли не всюду в мире. Но не исключено, что в разных странах еще живы ветераны, у которых они вызывают горькие воспоминания о принудительном труде на дочерних предприятиях этих и многих других швейцарских компаний в нацистской Германии. В этих филиалах, остававшихся в швейцарском ведении, тоже широко использовались насильственно угнанные нацистами в Германию «восточные» и иные рабочие, а также военнопленные. Все они трудились и содержались в таких же варварских условиях, как и на заводах, находившихся в германской собственности.

До сих пор на реноме демократической порядочности и нейтралитета альпийской страны ложилась только одна тень: нашумевшая история наживы ее банковского сообщества на довоенных денежных вкладах жертв нацизма и конфискованном у них золоте. После громкого скандала двум крупнейшим кредитным институтам в Цюрихе — «*UBS*» и «*Credit Suisse*» — пришлось выплатить этим людям и их наследникам в виде компенсаций 1,25 миллиарда долларов. И вот независимая комиссия историков под руководством женевского профессора социологии Жана-Франсуа Бергъе, образованная пять лет тому назад парламентом и правительством Берна, обнаружила и обнародовала на этих днях новые неприглядные факты негласного швейцарского пособничества гитлеровскому рейху.



Целый ряд швейцарских фирм, имевших предприятия в Германии, были зачислены, подобно «Роше», в высшую категорию нацистской военной экономики как поставщики вермахта. В круг их постоянных клиентов входили также структуры СС. В частности, один из германских филиалов швейцарского концерна «*BBC*» поставлял энергетические установки для предприятий лагеря смерти Освенцим. Это — в Германии. А в самой Швейцарии по железным дорогам пропускались составы с жизненно важными боеприпасами и продовольствием для частей вермахта и СС, оккупировавших Италию. Несмотря на явственное приближение конца «третьего рейха», в 1944 году швейцарские электростанции продолжали обеспечивать его энергетические потребности, «перекачав» туда миллиард киловатт-часов электроэнергии.

Но самое позорное не это. Комиссия Бергъе теперь уже точно подтвердила, что в производственных филиалах швейцарских фирм в Германии насчитывалось не менее десяти тысяч лиц принудительного труда и военнопленных. На предприятии «Нестле» в Каппельне они составляли в 1943 году не менее 30 процентов «персонала». А для «*BBC*» доставлялись даже узники гитлеровского концлагеря Бухенвальд.

Что касается жестокого произвола, которым подвергались тогда в Германии иностранные рабы и военнопленные, то, сообщает комиссия, «швейцарские дочерние предприятия не представляли собой в этом отношении исключения». Например, на заводе «Лонца» в Вальдсхуте начальник охраны некий Алберт Б. регулярно зверски избивал «нерадивых» работников. Садист делал это в подвальном помещении, издевательски названном из-за криков жертв «музыкальным салоном». В докладе комиссии отмечается, что швейцарские администраторы, как правило, были осведомлены о непосильном труде узников нацизма и жестоких издевательствах над ними. По мнению исследователей, они имели возможность положить этому конец, однако на практике только безучастно пожимали плечами, что «соответствовало логике действий, ориентированных исключительно на экономические посылки», т.е. на прибыль. Человеколюбие при этом исключалось. Беглецов из нацистского ада нередко возвращали палачам. Известен случай, когда даже в августе 1944 года кантональная полиция Тургау передала германским пограничникам на верную смерть двух человек, совершивших побег с нацистской каторги и уже успешно добравшихся до благословенной Швейцарии.

Итог прискорбен. Согласно резюме профессора Бергъе, «швейцарские сообщники помогали продлению террористической войны нацистов, получая на этом весьма крупный профит». Так может соответствующим промышленным фирмам жемчужины Альп последовать немецкому и австрийскому примерам и тоже создать компенсационный фонд для тех, вероятно, уже немногих оставшихся в живых узников нацизма (или их прямых потомков), которые подневольно гнули спину на швейцарских предприятиях в Германии?

**Евгений ПЕТРОВ**

Галоўны рэдактар
Павел ЖУК

© НАША СВАБОДА. Спасылка на газету НАША СВАБОДА абавязковая. Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў, публікаваць артыкулы дзеля палемікі
Адрас: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173. Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1289. Выдаецца з 25 лютага 2000 г. Заснавальнік Зміцер Жук.
Выдавец — рэдакцыя газеты НАША СВАБОДА. E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка на паліграфічным РУП «Чырвоная звязда»
220073, г. Мінск, Першы загарадны завулак, 3. Заказ №1757 Нумар падпісаны ў друк 6/09/2001 (15:00) Наклад — 10.340